Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

30 мая 1998 года
СУБОТА
№ 41(121)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## 1 чэрвеня — Міжнародны дзень абар

*Дарослыя чамусьці любяць гаварыць пра сваё дзяцінства, любяць пераконваць сябе і іншых, што было яно на рэдкасць ясным і бесклапотным. І праблема была ў іх адна-адзіная — як бы хутчэй вырасці і працаваць да сёмага поту дзеля людзей, дзеля Радзімы.*

*Паслязаўтра — Міжнародны дзень абароны дзяцей. Наўрад хто з нас усур'ёз лічыць, што за адзін дзень можна стварыць вялізную здраўніцу-цяпліцу для "кветак жыцця". Давайце проста задумаемся, як зрабіць жыццё нашай дзятвы крышачку ўтульным і святлейшым. І давайце хоць раз у год не будзем расказваць ім казкі і чытаць маралі. Паспрабуем выслухаць іх, не адмахваючыся ад нязграбных фраз і не пускаючы звыклы пыл у наіўныя вачаняты.*

*Жыць не па хлусні нас, дарослых, могуць навучыць дзеці.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*



## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

### ІВАЦЭВІЧЫ

## Школьная пара калі-небудзь заканчваецца

Пад нягучны акампанемент сваіх слёз слухалі ў мінулы панядзелак выпускнікі школ мелодыю апошняга званка. Адзвінеў ён для 1100 дзевяцікласнікаў і для больш за 760 адзінаццацікласнікаў. У такі дзень юнакі і дзяўчаты не прыгадвалі свае былыя страхі і канфлікты, не паглыбляліся ва ўспаміны — думалі толькі пра будучае.

Поспехаў вам, шаноўныя настаўнікі, якія хвалююцеся за сваіх вучняў, што сталі амаль роднымі. Вам, выпускнікі, поспехаў на экзаменах, што пачынаюцца паслязаўтра.

## У пяцёрцы лепшых

У Лунінцы прайшоў двухдзённы вучэбна-метадычны семінар па службова-баявой падрыхтоўцы начальнікаў гарадскіх і раённых аддзелаў унутраных спраў. Праграма яго ўключала не толькі абмен вопытам.

Страявая, агнявая і фізічная падрыхтоўка, а таксама праведзеныя аператыўна-тактычныя вучэнні па выяўленні і затрыманні злачынцаў, змаглі вызначыць лепшых сярод першых асобаў міліцыі. У пяцёрцы лепшых — начальнік Івацэвіцкага раённага аддзела ўнутраных спраў, маёр міліцыі Сцяпан Дзмітрыевіч Мастыка.

## Святкавалі вернікі

Вернікі Івацэвіцкай грэка-каталіцкай царквы адзначылі свята іконы Маці Боскай Жыровіцкай. Богаслужэнне, на якім прысутнічалі прадстаўнікі Брэсцкай і Баранавіцкай парафій, пачалося з песні Маці Боскай Жыровіцкай.

З вернікамі сустрэўся артыст Віцебскага драматычнага тэатра імя Я. Коласа, бард Яўген Савельеў. Ён, узяўшы ў рукі гітару, спяваў пра адраджэнне мовы і духа, пра Бацькаўшчыну, пра нашу еднасць з Богам.

Пасля ўсяго гэтага вернікі ажыццявілі паездку на вячэрняе набажэнства ў Жыровіцкі манастыр.

### БЯРОЗА

## Асвячэнне касцёла запланавана на Сёмуху

7 чэрвеня на каталіцкую Тройцу павінна адбыцца асвячэнне бярозаўскага касцёла. Плануецца прыезд значнай колькасці гасцей. Каля ста чалавек з Польшчы прыедуць на двух вялікіх аўтобусах.

## Завітала радыёэкспедыцыя

Беларускае радыё праводзіць экспедыцыю "Мой родны кут — мой клопат і надзея" — своеасаблівае падарожжа па раёнах рэспублікі. Нядаўна гэтая перадача расказала пра Бярозаўскі раён, прапанавала сюжэты з сённяшняга яго жыцця, прыгадала важныя гістарычныя падзеі, якія выпалі на век раёна.

### БАРАНАВІЧЫ

## Верталёт упаў і загарэўся

Выконваючы хімічную апрацоўку палёў эксперыментальнай базы "Вольна-Чэрніхава", пілот верталёта Ка-26 С. Яхноўскі заўважыў непаладкі ў рабоце рухавіка. Ён паспрабаваў пасадзіць машыну каля в. Савічы, але не справіўся з кіраваннем. Верталёт упаў і загарэўся. Пілот змог патушыць агонь да прыбыцця пажарных.

## Грукнулі ў дзверы — бабуля адчыніла

І за сваю легкадумнасць адразу ж паплацілася. Мужчына і жанчына, што ўварваліся ў кватэру, збілі з ног састарэлую жанчыну, звязалі яе тэлефонным шнурком і забралі 360 тысяч рублёў — такая сума была ў наяўнасці ў пенсіянеркі. Міліцыя шукае налётчыкаў.

### КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ВАЛЕНТИНА. По гороскопу — Близнецы. В жизни ценю любовь, красоту и свободу. Считаю, что хорошее настроение помогает увидеть красоту во всем. Очень люблю, когда дарят цветы. Любимый праздник — Новый год. Из эстрадных певцов предпочтение отдаю Александру Серову и Патрисии Каас.*

### НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Хітрая статыстыка

***Сёння ў Брэсцкай вобласці налічваецца больш за 400 стратных прадпрыемстваў — трэць ад іх агульнай колькасці.***

У параўнанні з мінулым годам знізілася рэнтабельнасць ва ўсіх галінах. Хоць статыстыка адзначае рост прыбытку на прадпрыемствах прамысловасці, гандлю і сельскай гаспадаркі. Аднак рост дасягнуты пераважна за кошт звычайнага павышэння цэнаў.

## 80-гадовы юбілей пагранічных войскаў

***28 мая споўнілася 80 гадоў пагранічным войскам Беларусі.***

У гэты дзень адбыліся ўрачыстасці ў краіне: сходы, канцэрты, сустрэчы пагранічнікаў з грамадскасцю. На пагранзаставах да помнікаў загінуўшым ускладзены кветкі. Да свята выпушчаны юбілейныя медалі і нагрудныя знакі, створан дакументальны фільм.

## Цэны "вызваляюцца" ад адміністрацыйных пут

***Адміністрацыі большасці рэгіёнаў Беларусі дазволілі прадпрыемствам гандлю купляць імпартныя харчовыя тавары па цэнах, якія скла́ліся на момант набыцця.***

Па свабодных цэнах ім цяпер можна набываць такія прадукты харчавання, як цукар, алей, маргарын, рыбу і прадукты з яе, грэцкую крупу, рыс, тытунёвыя вырабы, цытрусавыя, раннюю гародніну, садавіну, бульбу, чай, каву. А ўслед за аптовымі вырастаюць і розн‌ічныя цэны... У адрозненне ад зарплаты, чарговае павышэнне якой урадам плануецца напрыканцы гэтага года.

## Гэтыя землі лічыць чыстымі. Умоўна

***Так рашыў Саўмін РБ сваёй пастановай, выключыўшы шэраг зямельных плошчаў з катэгорыі "землі адчужэння" і перавёўшы іх у катэгорыі "гаспадарчага карыстання" і "абмежаванага гаспадарчага карыстання".***

Гэтае рашэнне ўзгоднена з Міністэрствам аховы здароўя і іншымі адказнымі за здароўе і дабрабыт насельніцтва ведамствамі, а таксама мясцовымі ўладамі ў Гомелі і Магілёве.

Да абмежаванага гаспадарчага выкарыстання прапануецца амаль 7,5 тыс. гектараў земель, якія раней лічыліся "бруднымі". Пасяўны клін краіны расшырыўся настолькі, наколькі сціснулася зона.

## "Газпрам" — Беларусі: грошы давай...

***Запазычанасць беларускіх спажыўцоў Расіі за газ складае каля 236 млн. долараў ЗША, за нафту — 136.***

У адпаведнасці з пагадненнем, падпісаным паміж прэзідэнтам "Газпрама" Рэмам Вяхіравым і прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам, у маі-чэрвені Беларусь кожны дзень павінна выплачваць "Газпраму" 1 мільён долараў валютай.

## Працэс над бандай

***У Магілёве завяршыўся гучны судовы працэс, які доўжыўся больш чым паўгода.***

Судзілі чавускую злачынную групоўку з чатырох чалавек. На рахунку бандытаў, якіх абвінавачвалі па 22-х артыкулах Крымінальнага кодэкса, сем забойстваў, мноства згвалтаванняў, бандыцкіх нападаў, абрабаванняў і крадзяжоў. Суд палічыў даказанымі 50 эпізодаў з 70. У выніку двое бандытаў асуджаны да расстрэлу, яшчэ двое — да 10 гадоў і 3 гадоў 4 месяцаў пазбаўлення волі. Дарэчы, самі асуджаныя заявілі, што лічаць сябе невінаватымі.

*(Па старонках незалежных газет).*

КРЫМІНАЛ

## Плакалі грошыкі

Прадпрымальніца з Івацэвічаў, якая толькі што на рынку паставіла палатку і расклала тавары, пачула, што побач прадаюцца танныя свежыя памідоры. Кінулася туды, папрасіўшы знаёмага мужчыну пасцерагчы яе багацце. Хлопец аказаўся не промах. Пакуль кабета бегала па гародніну, ён зайшоў у палатку і з пакета, які ляжаў пад раскладушкай, выцягнуў 19 мільёнаў рублёў.

Жанчына падазрае ў крадзяжы свайго знаёмага, яго прозвішча яна ўказала ў заяве, пададзенай міліцыі. Аднак мужчына лічыць сябе невінаватым і адмаўляецца ад учыненага.

*Л. САШЫН.*



ПОСТ ДАІ

# Тэхагляд асабістага транспарту

Штогод расце колькасць аўтамабіляў у жыхароў Івацэвіцкага раёна. Летась іх набыта яшчэ 626, а ўсяго стала 6009 адзінак. Матацыклаў розных марак на пачатак года налічвалася 11155.

З павелічэннем колькасці аўтаматранспарту ўзрастае і колькасць дарожнатранспартных здарэнняў.

Летась, напрыклад, на дарогах раёна адбылося 52 такія здарэнні. 27 чалавек загінула, 49 — атрымалі цялесныя пашкоджанні. Індывідуальнымі ўладальнікамі аўтамашын і матацыклаў здзейснена 27 здарэнняў, пры якіх 14 чалавек загінула і 27 — паранена. Толькі вадзіцелямі легкавушак зроблена 19 аварый, у час якіх дзесяць чалавек загінула.

У параўнанні з 1996 годам рост здарэнняў на дарогах склаў 80 працэнтаў.

Асаблівую ўвагу дзяржаўтаінспекцыя надае ўтрыманню транспарту індывідуальных уладальнікаў у тэхнічна спраўным стане. У гэтых мэтах праводзіцца штогадовы тэхнічны агляд аўтамататранспарту.

Згодна з рашэннем райвыканкама, тэхнічны агляд індывідуальнага транспарту будзе праводзіцца па сельскіх Саветах у чэрвені па зацверджанаму графіку.

Для правядзення тэхагляду неабходна прадаставіць машыну ці матацыкл у чыстым і тэхнічна спраўным стане. Уладальнікі транспарту павінны мець пры сабе вадзіцельскае пасведчанне, медыцынскую даведку, рэгістрацыйныя дакументы, для ўладальнікаў аўтамабіляў — даведку аб тэхнічным стане транспарту са станцыі тэхабслугоўвання, а таксама квітанцыю аб аплаце за правядзенне тэхагляду машыны — 50 тысяч рублёў, аўтапрычэпа і матацыкла — 20 тысяч рублёў.

І яшчэ адну квітанцыю трэба мець пры сабе ўладальнікам транспарту пры тэхаглядзе. Маецца на ўвазе штогадовы збор з транспартных сродкаў, зацверджаны пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Колькі ж трэба плаціць?

Збор за матацыкл і матаролер складае палову мінімальнай заработнай платы, гэта значыць 125 тысяч рублёў.

А далей плата ўжо залежыць ад магутнасці рухавіка легкавой аўтамашыны. Адну мінімальную зарплату трэба заплаціць тым вадзіцелям, калі магутнасць рухавікоў іх аўтамабіляў не перавышае 40 конскіх сіл. Калі ж ад 40 да 100 конскіх сіл — паўтары мінімальныя зарплаты; ад 100 да 150 — тры; звыш 150 конскіх сіл — пяць мінімальных зарплат.

А зараз пра індывідуальныя грузавыя аўтамашыны. Велічыня збору за іх таксама залежыць ад магутнасці рухавіка. Так, пры магутнасці рухавіка да 100 конскіх сіл плата складае пяць мінімальных зарплат; ад 100 да 150 — сем; ад 150 да 200 — дзесяць; ад 200 да 250 — 13; звыш 250 конскіх сіл — 15 мінімальных зарплат.

Ад збораў за транспарт вызваляюцца Героі Беларусі і Савецкага Саюза, Героі Сацыялістычнай Працы, асобы, узнагароджаныя ордэнам Славы ці Працоўнай Славы трох ступеняў, ветэраны вайны, а таксама асобы, на якіх распаўсюджаны льготы ўдзельнікаў вайны; інваліды ўсіх катэгорый; сем'і, якія маюць дзяцей-інвалідаў ці інвалідаў з парушэннем апорна-рухальнага апарату; мнагадзетныя сем'і.

Пенсіянеры па ўзросту, уладальнікі аўтатранспартных сродкаў, плацяць збор за транспарт у памеры 50 працэнтаў зацверджаных ставак.

Вышэйназваныя льготнікі, што маюць аўтатранспарт, на тэхаглядзе павінны мець пры сабе дакументы, якія пацвярджаюць іх прыналежнасць да пэўнай катэгорыі інвалідаў, ветэранаў і г. д.

Калі той жа льготнік мае некалькі машын, то льгота даецца толькі па аднаму віду транспарту (па выбару ўладальніка). Вось такія сёння патрабаванні да ўладальнікаў транспарту і тэхагляду розных машын і матацыклаў.

*Л. ДЭЦУК, дзяржаўтаінспектар Івацэвіцкага райаддзела міліцыі, капітан міліцыі.*

## ГРАФІК

**правядзення дзяржаўнага тэхагляду транспарту, які належыць індывідуальным уладальнікам Івацэвіцкага раёна ў 1998 годзе**

| Назва Савета | Дата правядзення | Месца правядзення (клуб) | Час правядзення |
|---|---|---|---|
| Квасевіцкі | 1.06. | в. Квасевічы | 18.00 |
| Мілейкаўскі | 2.06 | в. Мілейкі | 18.00 |
| Мілейкаўскі | 3.06 | в. Грыўда | 18.00 |
| Падстарынскі | 4.06 | в. Падстарынь | 18.00 |
| Стайкаўскі | 5.06 | в. Стайкі | 18.00 |
| Быценскі | 6.06 | в. Быцень | 15.00 |
| Косаўскі | 8-9.06 | г. Косава | 18.00 |
| Стайкаўскі | 10.06 | в. Зялёны Бор | 18.00 |
| Даманаўскі | 11.06 | в. Даманава | 18.00 |
| Любішчыцкі | 12.06 | в. Любішчыцы | 18.00 |
| Вольскаўскі | 13.06 | в. Магіліцы | 15.00 |
| Жытлінскі | 15.06 | в. Хадакі | 18.00 |
| Святавольскі | 16.06 | в. Святая Воля | 18.00 |
| Амяльнянскі | 17.06 | в. Амяльная | 18.00 |
| Яглевіцкі | 18.06 | в. Яглевічы | 18.00 |
| Аброўскі | 19.06 | в. Аброва | 18.00 |
| Выганашчанскі | 20.06 | в. Выганашчы | 15.00 |
| Дабромысельскі | 22.06 | в. Дабромысль | 18.00 |
| Козіцкі | 23.06 | в. В.Аброўская | 18.00 |
| Рэчкаўскі | 24.06 | в. Рэчкі | 18.00 |
| Целяханскі | 26-27.06 | г. п. Целяханы | 15.00 |
| Целяханскі | 25.06 | в. Горталь | 18.00 |
| г. Івацэвічы | 29-30.06 | клас БТАМА | 18.00 |
| г. Івацэвічы | 1-2.07 4.07 | клас БТАМА | 15.00 |



## УВАЖАЕМЫЕ ПОДПИСЧИКИ!

С 6 мая 1998 года открыта подписка на второе полугодие 1998 года на республиканские газеты и журналы и ряд изданий Российской Федерации. Подписку можно оформить в любом отделении связи района и у почтальонов.

Более подробную информацию Вам сообщат по телефонам 2-22-04 или 2-44-31.

Оформляйте подписку заранее, не оставьте свою организацию, семью без периодических изданий.

*Ивацевичский узел почтовой связи.*

УСМІХНІЦЕСЯ

## СПОРАВА І СПОРАЎЦЫ

Двое спораўцаў у такой ступені ап'янення, калі душа прагне сардэчнасці, цеплыні і ласкі.

Адзін просіць:

— Кум, ну, скажы мне цёплае слова.

— Куфайка.

XXX

Гром грыміць. Спораўка хрысціцца і просіць:

— Госпадзі, ратуй мяне і Пятра, сына майго, а нявестку Альжбету як хочаш.

XXX

Споравец слухае радыёперадачу пра воінафрантавіка, якога ўзнагародзілі ордэнамі Славы I, II, III ступені.

Паслухаў і сказаў:

— А ці можа быць слава I, II, III ступені?

XXX

У спораўца пытаюцца, куды гэта ён нясе радыёпрыёмнік.

— У рамонт.

— Чаму?

— Сапсаваўся, відаць. Бо цэлы дзень адно: стабілізацыя ды інтэграцыя, ды полька-весялуха...

XXX

Заходзіць споравец у цырульню, каб пастрыгчыся. У яго пытаюцца:

— Як стрыгчы?

— А як вы ўмееце?

— Пад "канадку" і на "лыса".

— А як танней? — дапытваецца споравец.

—На "лыса".

— Тады стрыжы! — згаджаецца ён.

Пастрыглі. Глянуў у люстэрка. Не спадабаўся сам сабе.

— Э-э, слухай, стрыжы мяне пад "канадку".

XXX

Прыехалі ў сваты. Ды ўжо прыйшла пара пытаць згоды нявесты-спораўкі на шлюб. Апусціўшы долу вочкі, наіўнае дзяўчо кажа:

— Я ўжо магу замуж ісці, я ўжо паспела.

XXX

Запыняе міліцыянер спораўца, які парушыў правілы вулічнага руху, і збіраецца штрафаваць, хоць той моцна просіцца.

— Я табе, — урэшце кажа споравец, — пакажу чалавека, у якога ёсць аўтамат.

"Ого, — падумаў сяржант-міліцыянер, — відаць, неўзабаве я стану лейтэнантам".

І патрабуе, каб той не марудзіў, а як найхутчэй вёў і паказаў чалавека з ружжом.

— І тады не аштрафуеш? — перапытвае споравец.

— Ды не-не, хутчэй вядзі! — загадвае нецярплівы сяржант.

Тады споравец прывёў і паказаў міліцыянеру помнік воіну-вызваліцелю з аўтаматам у руках.

*А. ЗАЙКА, настаўнік Запалянскай СШ Івацэвіцкага раёна.*

Супрацоўнікі рэдакцыі "Газеты для вас" выказваюць глыбокае спачуванне шафёру Мацукевічу Андрэю Уладзіміравічу з прычыны напаткаўшага яго гора — раптоўнай смерці роднага дзядзькі **Чырка Рыгора Ціханавіча.** Няхай зямля яму будзе пухам.

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 29 мая ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



*Тыраж 1850 .*
*Заказ 1658 .*